ПРЫ ПАДТРЫМЦЫ ПАГА «РУХ «ЗА СВАБОДУ»

# EURO КЛУБ

ДАДАТАК ДА ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНАГА БЮЛЕТЭНЯ «ДЗЕДЗІЧ»

№04 (07) • КРАСАВІК 2012



## ЗНОЎ СЯБРУЕМ

**На мінулым тыдні новы канфлікт паміж Менскам і Брусэлем перастаў здавацца невырашальным: беларускі бок вуснамі адразу трох высокапастаўленых асобаў - прэзідэнта, кіраўніка яго адміністрацыі і міністра замежных справаў - выказала зацікаўленасць у наладжванні адносін.**

Чаму ў адносінах паміж Брусэлем і Менскам азначылася разрадка? Большасць экспертаў схільныя тлумачыць такую сітуацыю маскоўскім фактарам.

*«Казаць пра тое, што мы будзем ваяваць супраць Захаду, таму што мы пад крылом у Расіі, гэта абсалютная дурасць, прымітывізм»*, - заявіў Аляксандр Лукашэнка на нарадзе па вонкавай палітыцы.

«НАМ ГЭТА ВАЙНА НЕ ПАТРЭБНА ЯШЧЭ І ТАМУ, ШТО НЕ ЖАДАЛАСЯ Б, КАБ МЫ ПЕРАГРУЖАЛІ РАСІЮ ЎЛАСНЫМІ ПРАБЛЕМАМІ. РАСІЯ НАС БУДЗЕ АБАРАНЯЦЬ У ШКОДУ САБЕ, - СКАЗАЎ ЁН. - У РАСІІ СЁННЯ СВАІХ ПРАБЛЕМ ЗВЫШДАСТАТКОВА. ТАМУ НАМ НЕ ТРЭБА ПЕРАГРУЖАЦЬ НАШЫХ БЛІЗКІХ ПАРТНЁРАЎ ПРАБЛЕМАМІ Ў АДНОСІНАХ З ЗАХОДНЯЙ ЕЎРОПАЙ».

Некаторыя прама злучаюць дадзеную заяву з тэлефоннымі перамовамі, якія адбыліся 5 красавіка паміж Аляксандрам Лукашэнка і Уладзімірам Пуціным.

*«Усім зразумела, што Пуціну трэба наладжваць адносіны з Еўропай. А тут яшчэ Лукашэнка, як цвік у канапе: толькі паслабіўся - і ўчэпішся»*, - піша намеснік галоўнага рэдактара няўрадавай газеты «Народная воля» Святлана Калінкіна.

Па яе меркаванні, беларускі лідар *«разлічваў на канфлікце з Захадам сарваць з Расіі дывідэнды»*, але расейцы адказалі яму цішынёй.

Не дамогшыся чарговых фінансавых уліванняў у беларускую эканоміку, Аляксандр Лукашэнка спрабуе шантажыраваць расійскае кіраўніцтва, дэманструючы магчымасць перамоў з ЕС - мяркуюць некаторыя эксперты.

Канфлікт з ЕС наносіць відавочную шкоду нацыянальным інтарэсам Беларусі, упэўнены дырэктар Цэнтра еўрапейскай трансфармацыі Андрэй Ягораў. *«Адзіны агент, які выйграе ад эскалацыі супрацьстаяння Беларусі з Еўрапейскім звязам - Расія, якая спрабуе за кошт гэтага задаволіць шэраг сваіх геапалітычных інтарэсаў і імперскіх прэтэнзій, агучаных падчас пуцінскай кампаніі»*.

Нагадаем, у кастрычніку 2011 гады дзейсны расійскі прэм'ер Уладзімір Пуцін, які рыхтаваўся да абрання на пост прэзідэнта, агучыў ідэю стварэння на базе Мытнага звяза Беларусі, Казахстана і Расіі новага аб'яднання - Еўразійскага звяза.

Па яго меркаванні, такі звяз мог бы стаць *«адным з палюсоў сучаснага свету і пры гэтым меці ролю эфектыўнага «звязка» паміж Еўропай і дынамічным Азіяцка-Ціхаакіянскім рэгіёнам»*.

Крамлёўскі лідар паабяцаў, што ў далейшым Еўразійскі звяз стане ўдзельнікам дыялогу з ЕС: *«Такім чынам, уваходжанне ў Еўразійскі звяз, апроч прамых эканамічных выгод, дазволіць кожнаму з яго ўдзельнікаў хутчэй і на мацнейшых пазіцыях інтэгравацца ў Еўропу»*.

Такім чынам, калі Масква і зацікаўлена ў зніжэнні канфрантацыі паміж Брусэлем і Менскам, то гэту зацікаўленасць варта ацэньваць у кантэксце доўгатэрміновай стратэгіі Крамля. Высновы рабіць рана.

Ці ёсць далёка ідучыя планы ў адносінах да Беларусі ў самага Еўрасаюза? Наша краіна з'яўляецца ўдзельніцай праграмы «Усходняе партнёрства», і, як лічыць Андрэй Ягораў, ЕС мае вызначанае ўяўленне пра будучыню гэтай праграмы. Але да падпісання дамовы пра партнёрства і супрацоўніцтве з ЕС, да паўнавартаснага дыялогу пакуль далёка. *«Для таго, каб пачаць такога роду перамовы, Беларусі неабходна распачаць мінімальныя высілкі»*, - сказаў суразмоўца.

Але беларускім уладам не жадалася б навесці электарат на думку, што яны паддаюцца ціску з боку ЕС, таму не факт, што канфлікт будзе цалкам урэгуляваны.

**Паводле: naviny.by**

# КЕМПІНГІ Ў ПРАЗЕ

## АБО ТАННЫЯ НАЧЛЕГІ ДЛЯ СТУДЭНТАЎ

**На летні перыяд на ўсе 100% раім такі даступны спосаб пражывання, як кемпінг. Адначасова можна наведаць усе цікавыя славутасці і адпачыць у кампаніі сяброў. Кошты ў параўнанні з гатэлямі, пансіёнамі і матэлямі тут вельмі радуюць.**

Прадставім некалькі варыянтаў, якія спалучаюць кошт і якасць.

1. Трыакэмп знаходзіцца ў паўночнай частцы Прагі, куды зручна дабірацца, у ціхім мястэчку і працуе круглы год. Тут ёсць, здаецца, усё, што трэба для камфортнага адпачынку: і вада гарачая 24 гадзіны ў суткі, і Wi-Fi, спартыўны інвентар, кэмп-бар, дзе падаюць напоі, смажаныя сасіскі і мяса, не кажучы аб электрычнасці і WC. На выбар ёсць домікі, летнія домікі тыпу "бунгала", месцы для кэмпмабілей і пляцоўка для намётаў. На аднаго дарослага цана на суткі каля 10 даляраў, месца пад намёт 8 даляраў + дзеці за палову кошта. Тут жа ёсць пральныя машынкі, калі камусьці трэба, за асобны збор. Кэмпмабіль з падключэннем да электрычнасці і каналізацыі каштуе каля 15 долараў/суткі. Домікі і бунгала будуць даражэй – за 30 і 40 даляраў адпаведна. На сайце www.triocamp.com змяшчаецца інфармацыя на расейскай мове.

2. Кемпінг «Сокал» размяшчаецца на ўсходзе Прагі, дабірацца складаней, чым да першага, але плюс у тым, што гэты кемпінг знаходзіцца побач з вадаёмам. У «Сокале» ёсць басейн, мінігольф, кафэбар (у адрозненні ад першага, падаюць і сняданкі), мінімаркет (верагодна, не самы танны, і там лепш купляць пры вострай неабходнасці), Wi-Fi. Прапануюць тыя ж умовы для пражывання, што і ў першым, пры гэтым на аднаго турыста на суткі каштуе 7 еўра, месца пад намёт – 12 еўра + 4 еўра электрычнасць. Ёсць магчымасць зніжак на "Сямейны адпачынак", што складае 199 еўра/тыдзень для 6 чалавек + месца пад намёт + электрычнасць. Гэта зэканоміць шмат грошай. Кэмпмабіль абыйдзецца за 339 еўра/тыдзень, домікі па 29 еўра/суткі. Падрабязней на сайце www.campingsokol.cz.

3. Кемпінг «Джбан» уладкаваўся на ўсходзе Прагі, побач з месцам для купання, прыродным вадаёмам Джбан (бел. - збан). Даступнасць выдатная, пешшу 10 хвілін ад трамвая. На працягу летняга сезона тут забяспечваюць ахову. Усё тое ж, што і ў двух іншых: прадастаўлена месца для намётаў і летнія домікі, месцы пад кэмпмабілі. У агульнае карыстанне прадастаўлена кухня з электрычнымі плітамі, посудам, ракавінамі, абеднымі сталамі. Таксама можаце ўзяць у арэнду на рэцэпцыі грыль на вечар, гэта абыдзецца ў 6 еўра. Побач размяшчаецца маленькі магазінчык і кафэ-бар. Усё як у ўсіх: прыбіральні, душы, пральныя машыны, інтэрнэт. Кошты: 6 еўра дарослы, 4 еўра – дзіця, электрычнасць – 4 еўра, намёт – 6 еўра, кэмпмабіль – 10 еўра (ўсё за суткі). Летнія домікі для 4-х чалавек – 40 еўра /суткі. Падрабязней на сайце www.campdzban.eu .

P.S. Загадзя звяжыцеся з запланаваным месцам адпачынку, каб зарэзерваваць месца пад намёт. Удакладніце размяшчэнне, аддаленасць ад кафэ і рэцэпцыі, кошты ў летні сезон.


Кемпінг Джбан

**Паводле блога www.eurotrip.by**

# ТРАДЫЦЫЙНЫ СНЯДАНАК ЕЎРАПЕЙЦА

**Ў шматлікіх еўрапейскіх краінах сняданак уяўляе сабой не толькі прыём ежы, а цэлую падзею, звязаную са зносінамі паміж людзьмі, абменам ранішнімі навінамі і пажаданнем адзін аднаму поспеху на цэлы дзень.**

Нездарма гаворыцца: «Скажы мне хто твой сябар, і я скажу хто ты». Так жа можна сказаць і пра традыцыйны сняданак у розных краінах: «Скажы мне, што ты ясі на сняданак, і я скажу хто ты».

Веды густаў адносна сняданкаў француза ці ангельца дапаможа прасякнуцца духам іхніх краін. Еўрапейцы кажуць, што традыцыйны сняданак еўрапейца абапіраецца на 3 прадукты - яйкі, сыр, сметанковае масла. Усё астатняе - дэталі. Хоць, часам дэталі бываюць цалкам істотнымі.

Вось, напрыклад **ангельскі сняданак**. Гэта цэлы баль з яйкаў, сасісак, памідораў, грыбоў, бекону, тостаў і аўсянай кашы. Праўда цяпер усё больш ангельцаў пераходзяць на здаровую ежу: ёгурт, кава без кафеіну (ячменная), хлеб з суцэльных зерняў. Але нягледзячы на гэта, яйкі, аўсяная каша, чай з малаком і тосты з апельсінавым мармеладам займаюць важнае месца ў сняданку звычайнай брытанскай сям'і.

У **Францыі** сняданак вельмі падобны на той, які падаюць у французскіх гасцініцах: хлеб (круасаны, багет), апельсінавы сок, масла, джэм, чорная кава (ці кава з малаком) або гарачы шакалад. Французскія круасаны (у перакладзе - «паўмесяц») бываюць 2-х выглядаў: масленыя і звычайныя. Звычайныя - круглейшай формы і меншага памеру. Насуперак ходкаму меркаванню, французы ядуць круасаны не кожны дзень, а, як правіла, толькі па выхадных. Дзеці ж аддаюць перавагу рулетам з шакаладам і камякам са злакаў.

**Сняданак у Італіі** - нават лягчэйшы, чым у Францыі. Італьянцы часцяком снедаюць па-за хатай, у кафэ ці бары. Складаецца такі сняданак з кавы з малаком (ці капучына) і выпечкі: сухога печыва, пластовай плюшкі з начыннем і мясцовай разнавіднасці круасана.

**У Гішпаніі** большасць жыхароў не снедаюць. Раніцай яны перакусваюць тостам з джэмам (як правіла - абрыкосавым), запіваючы яго кавай з малаком. Трэба заўважыць што гэта меню звычайнага «гараджаніна». Рыбакі, сяляне і іншы працоўны люд ядуць на сняданак што-небудзь больш істотнае: мяса, амлет, памідоры, хлеб з аліўкавым маслам.

**У немца** на ранішнім стале можна ўбачыць даволі разнастайнае меню. Тут і знакамітыя нямецкія мясныя дэлікатэсы (па статыстыцы кожны немец з'ядае ў год каля 30 кг каўбасы), сыры, некалькі выглядаў хлеба, вараныя яйкі, джэмы, масла, мюслі, садавіна, салодкая выпечка і, вядома, кава. Як ні дзіўна, немцы і аўстрыйцы п'юць каву ані не менш, чым, да прыкладу, італьянцы і французы.

**У Амерыцы** вельмі сур'ёзна ставяцца да ранішняй ежы. На сняданак тут: выцісную апельсінавы сок, аладкі і блінцы, міні-кексы і вафлі, сасіскі і смажаны бекон, піца і бульбяныя катлеты. Каву п'юць усё і паўсюдна (знакаміты "амерыкана").



**Паводле: put-nik.ru**

# СТУДЭНЦКАЯ КАРТКА

## АДЧЫНЯЕ ДЗВЕРЫ Ў ЕЎРОПУ

**ISIC (International Student Identity Card) – гэта студэнцкі білет міжнароднага ўзору, які выпускаецца пад эгідай ЮНЕСКА і з'яўляецца пасведчаннем асобы, турысцкай і дысконтнай, дасугавай картай і гэтак далей.**




Сярод асноўных бонусаў ISIC можна вылучыць зніжкі, ільготы, а то і бясплатныя правы на квіткі гарадскіх, міжгародніх і міжнародных маршрутаў; магчымасць пражывання ў хостэлах і кэмпінгах; на наведванне музеяў, выстаў, фестываляў; наведванне рэстаранаў, кафэ, начных клубаў; наведванне спартыўных мерапрыемстваў: пракат аўтамабіляў, ровараў і спортінвентару.

Да прыкладу, паездка ў Прагу абыдзецца танней, так як ISIC дае права на зніжку для людзей маладзей 26 гадоў.

Або пры куплі білетаў у Дыснэйлэнд пакажыце карту, і сэканоміце грошай на чызбургер :)

Уладальнікі ISIC пастаянна ўдзельнічаюць у раздачы розных плюшак (часта, праўда, не падазраючы пра гэта).

Кожнай карце даецца пінкод для 60 хвілін бясплатных званкоў са Skype на хатнія і мабільныя тэлефоны.

Спіс самых папулярных зніжак Еўропы можна паглядзець тут (http://eurotripby.blogspot.com/p/isic.html), астатняе шукайце на афіцыйным сайце (http://www.isic.org).

Аднак зніжкі працуюць не толькі ў Еўропе і ЗША, але і ў Беларусі. Шматлікія турфірмы, інтэрнэт-кафэ, клубы і нават Максдональдс прапануюць свае плюшкі менскім уладальнікам ISIC.

Карта ISIC дзейнічае з 1 верасня бягучага года па кастрычнік наступнага каляндарнага года.

**Для афармлення неабходна мець пры сабе:**

1) студэнцкі білет і яго копію (толькі дзённая форма навучання!);

2) адну фатаграфію 3х4, каляровую або чорна-белую (самі будзеце ўклейваць)

3) пашпарт і яго копію.

Афармленне ISIC абыдзецца ў 50 тысяч рублёў.

*У Менску картку можна зрабіць у Цэнтры моладзевых падарожжаў пр.Машэрава 17, корпус 1, офіс 101.*




**Паводле: eurotripby.blogspot.com**

# ГАДАВІНА ТЭРАКТУ

**10 красавіка ў офісе Руху "За Свабоду" адбыўся прэс-паказ фільма-расследавання "Белсату" - "Страх у краіне спакою". Стужка прымеркавана да гадавіны тэракту ў менскім метро (11 красавіка 2011 года). На канале фільм паказалі 11 красавіка, а цяпер яго можна паглядзець у інтэрнэце.**

На паказе, апрача журналістаў, прысутнічалі праваабаронцы, пацярпелыя ад выбуху і іх сваякі, а таксама Любоў Кавалёва, маці расстралянага па гэтай справе Ўладзіслава Кавалёва.

"*Калі-небудзь мы даведаемся ўсю праўду аб тэракце ў мінскім метро*", - сказала Кавалёва пасля паказу фільма, адказваючы на пытанні журналістаў.



Па яе словах, фільм ілюструе, што абвінавачанне так і не змагло даказаць віну Канавалава і Кавалёва:

*- Я ведаю, што вялікая колькасць людзей не вераць у афіцыйную версію ўлады, не вераць у вінаватасць Канавалава і майго сына.*

**рух.by**

## СТУДЭНЦКАМУ АБМЕНУ ПЕРАШКАДЖАЕ ПАЛІТЫКА

**Фармат удзелу Беларусі ў праектах студэнцкіх абменаў з ЕЗ шмат у чым залежыць ад таго, на якіх прынцыпах будуць у далейшым будавацца адносіны з аб'яднанай Еўропай. Пра гэта заявіў каардынатар праграмы Tempus ў Беларусі Мікалай Лістапад.**

Так, у 2010–2011 гадах у вельмі папулярнай у Еўропе праграме Erasmus Mundus узялі ўдзел толькі 230 беларускіх студэнтаў, але ва ўмовах развітага палітычнага дыялогу іх магло быць значна болей.

Цяпер беларускія ўніверсітэты афіцыйна ўдзельнічаюць у 7 праграмах Еўразвязу ў сферы вышэйшай адукацыі, у тым ліку Tempus, Erasmus Mundus. Плануецца, што ў 2014 годзе ўсе яны будуць аб'яднаныя ў адну Erasmus for all. Бюджэт яе будзе значна павялічаны, больш за палову выдзеленых сродкаў пойдзе на развіццё акадэмічнай мабільнасці студэнтаў і магістрантаў, распавёў БелТА Мікалай Лістапад.

Мяркуецца, што ў выніку такога аб'яднання супрацоўніцтва паміж ВНУ Беларусі і ЕЗ выйдзе на якасна новы ўзровень — да стварэння сумесных адукацыйных праграм. Але пакуль галоўная перашкода ў развіцці абменаў — палітычны фактар.

На бліжэйшыя гады Еўракамісія вылучыла 15 мільёнаў еўра на праграмы абмену студэнтаў і выкладчыкаў для 6 краін Усходняга партнёрства.

Зараз у праграмах ЕЗ у сферы вышэйшай адукацыі ўдзельнічаюць 5 беларускіх ВНУ: БДУ, Гарадзенскі ўніверсітэт імя Янкі Купалы, Берасцейскі ўніверсітэт імя А. С. Пушкіна, БНТУ, БДЭУ.

На думку каардынатара праграмы Tempus, беларускім студэнтам часцяком не хапае інфармацыі аб адукацыйных праграмах. Для таго каб стаць удзельнікам адной з іх, досыць хаця б на бытавым узроўні ведаць замежную мову і вучыцца не менш чым на васьмёркі.

За 2011 год па двухбаковых абменах 57 беларускіх студэнтаў накіраваныя на вучобу ў замежныя навучальныя ўстановы (у Расею — 30, у Кітай — 6, у Нямеччыну — 3, у Літву — 5).

**Паводле «Салідарнасці»**

## FUTURAMA ПА-БЕЛАРУСКУ



Поўзаючы ў пошуках шчасця па сацыяльнай сетцы, натыкнулася на адну з серый горача любімага не адным пакаленнем жыхароў Зямлі амерыканскага навукова-фантастычнага мульта "Футурама". Так і прасядзела перад экранам колькі гадзінаў.

І не таму, што выдалася нагода ўзгадаць хітраспляценні лёсаў Фрая, Лілы і Бэндара: галоўныя героі, дый, наогул, усе жыхары Нью-Ёрка 31 стагоддзя, а з імі і жыхары Сусвету, размаўлялі пабеларуску! Пры гэтым пілі "Аліварыю" дый здымалі грошы з дапамогай БелКарты!

Заходзце ў групу Ўкантакце «Futurama пабеларуску».Тэксты новых серый "Футурамы" выкладзены на сайце translated.by, дзе кожны жадаючы можа паўдзельнічаць у перакладзе.

**Мільва**

# НАВУЧАННЕ Ў ЕЎРОПЕ

## БАЛОНЬЯ +11 ЕЎРА

**Ёсць жаданне навучацца у Балонскім універсітэце? Усё магчыма! Кожнаму абранаму студэнту будзе прадастаўлены грант памерам 11.000 еўра ў год.**

Кіраўніцтва ўніверсітэта абвесціла наступныя лічбы:

- 20 грантаў для студэнтау, якія будуць навучацца па праграмах першага ці адзіночнага цыклаў. Каб патрапіць, вам патрэбна прыкласці вынікі SAT-тэста;
- 55 грантаў для студэнтаў, якія будуць навучацца па праграме другога цыкла. Адбор праводзіцца па выніках GRE-тэста.

Заявы на стыпендыю мусяць быць дасланыя разам з вынікамі тэстау!

Тэрмін навучання: 2012/2013.

Дэдлайн: 11/05/2012.

Падрабязная інфармацыя на сайце Балонскага ўніверсітэта www.eng.unibo.it.

## ЛЕТНЯЯ ШКОЛА Ў ТАЛІНЕ

**Талінскі педагагічны каледж пачынае прыём заявак на удзел у летняй двухтыднёвай адукацыйнай праграме па рабоце з моладдзю ў Эстоніі.**

2-тыднёвая праграма прапануе 3 спецыялізацыі:

- развіццё моладзевай палітыкі;
- мультымедыя ў працы моладзі;
- сацыяльнае прадпрымальніцтва і стратэгічнае планаванне.

Летняя школа будзе праходзіць з 2.07.2012 па 14.07.2012 ў Таліне, Эстонія.

Да ўдзелу запрашаецца моладзь з краін-партнёраў праграмы, а таксама з суседніх краін-партнёраў.

Дэдлайн падачы заявак: 25.05.2012.

Падрабязную інфармацыю глядзіце на сайце www.salto-youth.net.

## СТЫПЕНДЫЯ РАГНАРА НУРКСЕ

**Усе замежныя студэнты запрашаюцца да шукання стыпендыі імя Рагнара Нурксе.**

**Умовы**

Стыпендыят будзе абраны на аснове папярэдніх прафесійных і акадэмічных дасягненняў (мінімальны сярэдні бал – 3.5). Заяўка павінна ўключаць таксама рэкамендацыйны ліст ад аднаго з папярэдніх прафесараў студэнта. Нарэшце, план магістарскай дысертацыі студэнта будзе ацэньвацца з пункту гледжання таго, ці мае ён патэнцыял для стварэння новых ведаў і ці можа быць трансфармаваны ў часопісны артыкул.

**Стыпендыя**

Стыпендыя ў памеры 7.200 еўра на праграме «Кіраванне тэхналогіямі».

6 студэнтаў-замежнікаў таксама атрымаюць магчымасць вярнуць выдаткі звязаня з атрыманнем візы, страхоўкай і праездам.

**Заяўкі**

Калі ласка, дашліце заяўку на адрас rainer.kattel@ttu.ee не пазней за 31 траўня 2012 года.

**Афіцыйная старонка**: www.tg.deca.ee/eng/the_students/scholarships.

## ЛЕТНЯЯ ШКОЛА Ў НЯМЕЧЧЫНЕ

**9-16 верасня навуковы калегіюм польскіх даследванняў у Грайфсвальдзе, у Нямеччыне, ладзіць летнюю школу для студэнтаў і дактарантаў усіх спецыяльнасцяў.**

Галоўнай тэмай летняй школы будзе сучасная культура і літаратура Польшчы. Удзельнікі павінны цікавіцца тэмай і валодаць прынамсі базавымі ведамі нямецкай, ангельскай ці польскай моваў.

20 удзельнікаў маюць магчымасць атрымаць стыпендыю 250 еўра.

Заяўку на дасылайце разам з жыццярысам (рэзюмэ/CV), пералікам папярэдняга навучання і матывацыйным лістом (не больш за 2500 знакаў) на мэйл: tagungsbuero@wiko-greifswald.de.

**Дэдлайн** падачы заявак 15 чэрвеня.

Падрабязнасці на сайце: www.wiko-greifswald.de.

## КАНФЕРЭНЦЫЯ ДЛЯ ПЕДАГОГАЎ У РЫЗЕ

**14-15 верасня ў сталіцы Латвіі пройдзе канферэнцыя "Крэатыўнасць у навучальным працэсе".**

Гэтая канферэнцыя дае магчымасць абмеркавання апошніх дасягненняў у галіне адукацыі, а менавіта ўключэння ў навучальны працэс крэатыўнага мыслення.

Канферэнцыя мае практычную накіраванасць, таму кандыдатам пажадана ўключыць практычныя рэкамендацыі выкладання ў свае заяўкі. Тэма крэатыўнага мыслення будзе разглядацца ў дачыненні да моўнай адукацыі, матэматыцы, мастацтва і сацыяльных навук, дашкольнай адукацыі і г.д.

Да ўдзелу ў канферэнцыі запрашаюцца **навукоўцы, выкладчыкі, настаўнікі і адміністратары,** якія працуюць у розных узроўнях сістэмы адукацыі: ад дашкольнай да вышэйшай і адукацыі дарослых. Навучэнцы, бацькі і практыкі таксама вітаюцца.

Арганізатары канфэрэнцыі прапануюсь да **10 грантаў** для школьных настаўнікаў, якія пакрыюць рэгістрацыйны ўзнос для ўдзелу ў канферэнцыі.

**Дэдлайн:** 30/04/2012.

Больш падрабязную інфу глядзіце на сайце канферэнцыі: http://ta-teachers.eu/conference-2012.

## ДАКТАРАНТУРА Ў РЫМЕ

**Замежныя студэнты, магістры, выпускнікі, якія жадаюць навучацца ў Рымскім універсітэце, павінны даслаць заяву не пазней 2 траўня.**

Заява ў выглядзе анлайн-формы. Файл мусіць складацца з наступнага:

- рэзюмэ (узгадайце падрабязна ўсе вашы навуковыя ступені і вынікі іспытаў, якія вы здавалі, каб атрымаць і/ці падцвердзіць даддзеную ступень);
- тэзісы па даследчай працы;
- спіс вашых публікацый;
- два рэкамендацыйных ліста ад прафесараў.

З кандыдатамі будзе праведзена skype-сумоўе.

Дэдлайн: 02/05/2012.

Падрабязная інфармацыя:
www.scholarshipwarrior.com.

## ЯЗЫКОВЫЕ ЛЕТНИЕ ЛАГЕРЯ

Республиканское общественное объединение "Белорусская Ассоциация клубов ЮНЕСКО" реализует проекты по обучению разворному китайскому, немецкому и английскому языку для школьников.

Учителями китайского языка, искусства каллиграфии, ушу, чайных церемоний выступят профессиональные специалисты из Китайской народной республики. Преподавание в лагере немецого языка осуществляют немецкие и белорусские учителя и студенты. Носителями английского языка в проекте выступят специалисты и выпускники Оксфордского университета (Великобритания), белорусские педагоги.

Кроме образовательной, в лагере предусмотрена и культурная программа, включающая в себя проведение тематических дней, конкурсов, вечеров и т.д.

**Даты проведения:**

1. «Мост китайского языка и культуры» (Хань юй Цяо) – с 9 по 17 июня 2012 года.
2. «Мост английского языка и культуры» – с 23 июня по 2 июля 2012 года.
3. «Мост немецкого языка и культуры» (Die Brucke zur deutschen Sprache) – с 4 по 13 июля 2012 года.

Место проведения: УО «Минская областная государственная специальна общеобразовательная школа-интернат для детей с нарушением слуха» в п.Ждановичи.

**Условия участия проекте «Мост китайского языка и культуры»:**

Срок подачи заявок на участие: последняя дата 1 мая 2012 года.

Финансовые условия: членский взнос – 1 100 000 белорусских рублей. 50% взноса сдается вместе с подачей анкеты. Проезд до Минска и обратно – за свой счет. Из Минска до базы проведения лагеря и обратно до Минска проезд будет осуществляться за счёт РОО «БелАЮ» и Посольства КНР в РБ.

**Условия участия в проекте «Мост английского языка и культуры»:**

Срок подачи заявок на участие: последняя дата 20 мая 2012 года.

Финансовые условия: членский взнос/родительская доплата составляет 1 600 000 белорусских рублей. Вместе с анкетой вносится 50% стоимости путевки.

Проезд до Минска и обратно – за свой счет.

Более подробно здесь: Мост английского языка и культуры http://belau.info/docs/NEWS/English.doc.

**Условия участия проекте «Мост немецкого языка и культуры»:**

Срок подачи заявок на участие: последняя дата 1 июня 2012 года.

Финансовые условия: членский взнос/родительская доплата составляет 1 100 000 белорусских рублей. Вместе с анкетой вносится 50% стоимости путевки.

***

Проезд до Минска и обратно – за свой счет.
Подробная информация - на сайте:
www.belau.info.

**Паводле: adukacyja.info**

EURO КЛУБ ДАДАТАК ДА ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНАГА БЮЛЕТЭНЯ "ДЗЕДЗІЧ"

- **Заснавальнік:** ініцыятыўная група моладзі
- **Распаўсюджваецца бясплатна**
- **Падпісана ў друк** 15.04.2012 года у 18-00
- **Папера** афсетная, фармат А4, 0,5 ул.-друк. аркуша,
- **Гарнітура** Helios
- Надрукавана на памнажальнай тэхніцы сябраў рэдакцыі

**Галоўны рэдактар:** Дзмітрый ШЫМАНСКІ.
**Рэдакцыйная калегія:** В. Ярамчук, П. Дайлід, Д. Турчаняк.
**Адказны за выпуск:** Альбіна ТРУС.

- **Кантактныя тэлефоны: (029) 660-57-41, (029) 724-21-16.**
- **E-mail:** dzedzich@dzedzich.org. **Інтэрнэт:** www.dzedzich.org
- Пры выкарыстанні матэрыялаў бюлетэня спасылкі на крыніцу абавязковыя
- Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў і друкаваць артыкулы для далейшай палемікі
- **Наклад** 299 асобнікаў